

# Ніва



ГОД I № 5 БЕЛАСТОК, 1 КРАСАВІКА 1956 г. ЦАНА 60 гр.

ЯНКА КУПАЛА

## СПАДЧЫНА

Ад прадзедаў спакон вякоў
Мне засталася спадчына;
Паміж сваіх і чужакоў
Яна мне ласкай матчынай.

Аб ёй мне баюць казкі-сны
Вясеннія пратапіны,
І лесу шэлест верасны,
І ў полі дуб апалены.

Аб ёй мне будзіць успамін
На ліпе бусел клёкатам
І той стары амшалы тын,
Што лёг ля вёсак покатам;

І тое нуднае ягнят
Бляянне-зоў на пасбішчы,
І крык вароніных грамад
На могілкавым кладбішчы.

І ў белы дзень і ў чорну ноч
Я ўсцяж раблю агледзіны,
Ці гэты скарб не збрыў дзе проч
Ці трутнем ён не з'едзены.

Нашу яго ў жывой душы,
Як верны светак-полымя,
Што сярод цемры і глушы
Мне свеціць між вандоламі.

Жыве з ім дум маіх сям'я
І сніць з ім сны нязводныя.
Завецца-ж спадчына мая
Усяго Старонкай Роднаю.





*БЕЛАСТОК. — Фрагмент гарадскога парку.*

КАНСТАНЦЫЯ БУЙЛА

## ЛЮБЛЮ

Люблю наш край — старонку гэту,
Дзе я радзілася, расла,
Дзе першы раз пазнала шчасце,
Слязу нядолі праліла.
Люблю народ наш беларускі,
Хаціны ў зелені садоў,
Залочаныя збожжам нівы,
Шум нашых гаяў і лясоў,
І рэчку, што імкліва воды
Нясе ў нязведаную даль.
І схілы берагоў пясчаных,
І холад чыстых яе хваль.
Люблю вясну, што ў кветкі, зелень
Аздобіць радасна зямлю.
Буслоў на гнёздах клекатанне
І спеў жаўраначка люблю,
Гарачую спякоту лета
І буру летнюю з дажджом,
Як гром грыміць, а ў чорных хмарах
Маланка зіхаціць агнём.
І час жніва душой люблю я,
І першы звон сярпоў і кос,
Як выйдуць жнеі збожжа жаці,
А касары — на сенакос.
Люблю зіму з яе марозам,
Што вокны прыбярэ ва ўзор,
І белы снег, што, ўкрыўшы поле,
Ірдзее бляскам ясных зор.
Люблю ў пагодную я ночку
Да позна на дварэ сядзець,
Сачыць за сініх зор мігценнем,
На месяц залаты глядзець.
І песню родную люблю я,
Што дзеўкі ў полі запяюць,
А тоны голасна над нівай
Пераліваюцца, плывуць.
Усё ў тым краі сэрцу міла,
Бо я люблю край родны свой,
Дзе з першым шчасцем я спазналась
І з гора першаю слязой.

ШТОТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА



